З кім беларускаму ўраду давядзецца весці цяжкія перамовы?
Аб гэтым – на 5-й стар.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою.*
**Якуб КОЛАС**

№ 13 (4471)

14 лютага 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЗАПРАШЭННЕ

## Лукашэнка паедзе ў Швейцарыю?

Так, учора ён такое запрашэнне атрымаў.

– У Швейцарыі пройдзе чэмпіянат свету па хакеі. Я хацеў бы запрасіць вас наведаць адзін з матчаў гэтага чэмпіянату. Гэта быў бы першы такі неафіцыйны, але вельмі важны крок, – сказаў учора на сустрэчы з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам кіраўнік Федэральнага дэпартамента замежных спраў Швейцарыі **Іньяцыа Касіс**.

– Дзякуй! Калі так станецца, мы Петэру Шпулеру (*уладальніку кампаніі «Штадлер Рэйл Груп», якая ажыццяўляе інвестыцыі ў Беларусі*. – **Рэд.**) даручым арганізацыю гэтага візіту, – адказаў Аляксандр Лукашэнка.



Падчас сустрэчы былі закрануты пытанні двухбаковых адносін паміж Беларуссю і Швейцарыяй. А.Лукашэнка заявіў, што "Беларусь гатова прадаставіць швейцарскаму бізнесу самыя выгадныя ўмовы для інвеціравання".

Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Швейцарыі таксама ўзяў удзел у адкрыцці пасольства гэтай краіны ў Беларусі.

БНР – 102

## Мітынг-канцэрт у нядзелю 22 сакавіка

Нагадаем, што аргкамітэт па святкаванні Дня Волі–2020 стварыўі за паўгода да падзеі. Паведамлялася, што актывісты хацелі атрымаць дазвол на канцэрт ля Вялікага тэатра оперы і балета ў Мінску, але, натуральна, гэта ўсяго толькі планы.

Вядома, што палітыкі збіраюцца арганізаваць мітынг-канцэрт у нядзелю 22 сакавіка. На наступны дзень плануецца ўскласці кветкі да памятнага знака ў гонар прэм'ер-міністра БНР Антона Луцкевіча ў сталічным скверы імя Янкі Купалы. 24 сакавіка мяркуецца правядзенне лакальных імпрэз, а 25 сакавіка – квэсту "Дзе мой аўтазак?".

Зараз працягваецца збор сродкаў для правядзення мерапрыемстваў.

ПАРАЛЛЕЛИ

## Где самая высокая минимальная зрплата?

В Беларуси минимальная зарплата составляет 375 рублей, или примерно 157 евро.

А сколько в странах Евросоюза?

Болгария – 312 евро
Латвия – 430 евро
Румыния – 466 евро
Венгрия – 487 евро
Чехия – 575 евро
Словакия – 580 евро
Эстония – 584 евро
Литва – 607 евро
Польша – 611 евро
Португалия – 741 евро
Греция – 758 евро
Мальта – 777 евро
Словения – 941 евро
Испания – 1050 евро
Франция – 1539 евро
Германия – 1584 евро
Бельгия – 1594 евро
Нидерланды – 1636 евро
Ирландия – 1656 евро
Люксембург – 2142 евро

ПАД ГРАДУСАМ

## Як вясной…

Сёння чакаецца -4…+1°С, удзень 0…+5°С. Снег ці мокры снег магчымы пераважна на поўначы (у начныя гадзіны) і на Брэстчыне (у дзённыя гадзіны). Падобныя ўмовы надвор'я захаваюцца і ў **суботу** 15 лютага.

У нядзелю ўдзень будзе ўжо да +8°С, а ў Брэсцкай вобласці да +10°С. У **панядзелак** прагназуецца плюсавая тэмпература нават уначы, а ўдзень да +11°С!

ГУЧНАЯ СПРАВА

## «У маі мяне могуць вызваліць...»

*Пра гэта **Ігару Комліку** паведамілі ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Фрунзенскага раёна.*

Нагадаем, што 24 жніўня 2018 г. суд Савецкага раёна Мінска асудзіў кіраўнікоў прафсаюза РЭП **Ігара Комліка** і **Генадзя Фядыніча** на 4 гады абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу за ўхіленне ад выплаты падаткаў.

Ігар Комлік пачаў адбываць "хатнюю хімію" з 19 снежня 2018 года, Генадзь Фядыніч – са студзеня 2019 года.

У лістападзе мінулага года стала вядома, што Фядыніч і Комлік патрапілі пад дзеянне закона аб амністыі, прынятага да 79-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Тэрмін адбыцця пакарання ім скарацілі на год.

*"Зараз у крымінальна-выканаўчай інспекцыі мне паведамілі, што ўжо ў маі гэтага года могуць пападаць дакументы на маё ўмоўна-датэрміновае вызваленне*, – кажа **Ігар Комлік**. – *Па законе вызваленне магчыма, бо прайшло дзве трэці ад тэрміну пакарання. Натуральна, пры ўмове, што да таго часу не будзе ніякіх папярэджанняў. Таму калі інспекцыя вырашыць падаць дакументы, гэта для мяне будзе вельмі радасна".*

**Віктар ШПАК.**

БІРЖА

## Ці працягне абвальвацца рубель?

*Курс долара расце трэці тыдзень запар.*

Учора на таргах 1 долар стаў каштаваць ужо 2,2001 беларускага рубля, і да гістарычнага максімуму засталося зусім мала. Чаму амерыканская валюта стала імкліва даражэць?

*"Па-першае, беларускі рубель паступова зніжаецца да валютнага кошыка*, – тлумачыць старшы аналітык кампаніі "Альпары" **Вадзім Іосуб**. – *Па-другое, долар умацоўваецца на сусветным рынку. Калі гэтыя дзве тэндэнцыі накладваюцца адна на адну, беларускі рубель пачынае таннець".*

Паводле прагназаў эксперта, у бліжэйшы час тэндэнцыя па зніжэнні рубля, хутчэй за ўсё, будзе працягнута.

*"Па меншай меры да таго часу, пакуль сур'ёзна не павялічацца пастаўкі нафты з Расіі і не вырасце экспарт нафтапрадуктаў*, – адзначае Вадзім Іосуб. – *А вось хуткасць росту асобных валют будзе залежаць ад таго, што з імі будзе адбывацца на валютных рынках".*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ВСПОМНИМ...

## В жерновах необъявленных войн

15 февраля – очередная годовщина со дня вывода советских войск из Афганистана. Как правило, власть использует эту дату в пропагандистских целях: «афганцев» собирают в райисполкоме, благодарят за мужество и героизм, дарят ценные подарки, а иногда вручают юбилейные медали. «Районки» не жалеют «афганской теме» газетной площади. «Афганцы» отвечают на проявленное властью внимание политической лояльностью. А это то, что чиновникам и нужно. Критического осмысления участия советских войск в афганской войне власть старается избегать. Это ей просто невыгодно.

На самом деле афганская авантюра, я считаю, была одной из причин распада СССР. Войны, как известно, стоят дорого. Если они длятся долго – бремя расходов практически для любой страны становится невыносимым. А если в стране своеобразная экономика, когда государство делает вид, что платит, а люди делают вид, что работают, то десятилетняя необъявленная война может являться последним аккордом ее распада.

Все тогда сложилось в единый пазл: и низкие цены на нефть, что для сырьевой страны почти смерть, и деградация общества, крах морали, ложь властей, и паралич экономики, и непомерные расходы на войну в Афганистане. Империя СССР рухнула как карточный домик.

Сейчас понятно, что кремлевские старцы допустили стратегическую ошибку, направив 40-ю армию в Афганистан. Жизни тысяч солдат и офицеров были положены в горах далекой страны напрасно. А сколько сломано судеб! Кто считал это? Только Господь Бог.

Необъявленная афганская война благодаря горбачевской Перестройке получила огласку, о ней писали и снимали фильмы, спорили – уже было можно. В конце концов Горбачев понял, что войска нужно немедленно убирать из Афганистана. Благодаря его решению многие потенциальные жертвы войны остались живы и вернулись домой.

До Афганистана Советский Союз защищал «социалистические завоевания» в Испании, Корее, Вьетнаме, ГДР, Венгрии, Чехословакии, Египте, Анголе, Эфиопии, Сомали, на Кубе. Об участии советских военных в боевых действиях на территории этих стран хоть что-то известно. Но наверняка есть немало стран, где советские диверсанты действовали столь скрытно, что об их операциях не известно до сих пор.

В Европу, Азию, Африку, в Латинскую Америку СССР отправлял горы оружия. Тысячи специалистов и «добровольцев» вернулись из «горячих точек» в цинковых гробах. Их хоронили под покровом ночи, без указания места гибели и причины. Родным запрещалось говорить на эту тему. Потому что это были необъявленные войны – правители вели их втайне от народа. Людям твердили о миролюбивой политике государства, на демонстрациях запускали голубей, несли плакаты «Мы – за мир!», но в тиши кремлевских кабинетов мечтали о Земшарной республике Советов – мечте Ленина и Сталина.

Африканские племенные вожди в борьбе за власть использовали жажду Кремля построить коммунизм во всем мире: не долго думая, они объявляли о курсе на социализм, просили денег, оружия, советников. Кремль охотно верил и все необходимое давал. Потом выяснялось, что социализм этим вождям по барабану, им важно было взять власть, чтобы иметь все от жизни. Некоторые африканские друзья Москвы не гнушались каннибализмом и имели целые скопище грехов. Строя социализм, книжек Ленина они не читали – некогда было: нужно было убивать соперников, вкусно кушать и посещать многочисленные гаремы.

На полях сражений за мир во всем мире полегли десятки тысяч наших граждан. Летчик «Ли Си Цын» во Вьетнаме стал легендой. Многие вернулись из «горячих точек» инвалидами, с надорванной психикой. Вернулись, чтобы однажды услышать в военкомате: «Наших войск в Сомали официально нет» или «Я вас в Афганистан не посылал!»

Где сейчас те страны, в которых красные вожди пытались «навести порядок» и построить социализм военной силой? Где ГДР, Венгрия, Чехословакия? Там, от чего мы их так спасали, – в НАТО.

Где наши «социалистические» африканские страны? Как и мы – строят капитализм. Да, есть пару стран, где социализм уцелел – например, в Северной Корее и на Кубе. Но что взять с этих стран, кроме, образно говоря, анализа? Ни денег, ни технологий. Куба потихоньку дрейфует туда, откуда так рвалась в 1959-м.

В жерновых необъявленных войн перемолоты судьбы людские. Ради чего?

**Сергей НЕРОВНЫЙ.**

*г.Кричев.*

БЕЗ ГАЛСТУКА

## Леонид ЗАИКО: «Я готов работать премьер-министром»

*Известный экономист говорит, что, если ему предложат должность премьер-министра, он без долгих раздумий согласится. И даже служебной машиной пользоваться не будет – от дома, где живет кандидат экономических наук, до Дома правительства всего 315 шагов.*

*Кажется, Леонид Заико, как никто другой, знает, что сегодня нужно делать с белорусской экономикой. Он часто раздает советы и рекомендации чиновникам, анализируя суровую белорусскую действительность.*

*А почему ему самому не возглавить, например, одно из министерств и не показать, как надо работать?*



– Я никого жизни не учу, – *и в шутку, и всерьез говорит Леонид Федорович*. – Мой главный принцип: не мешать и дать возможность людям делать свои собственные ошибки.

**– В свое время Александр Лукашенко предложил вашему коллеге экономисту Ярославу Романчуку раскрыть весь свой потенциал и возглавить колхоз. Но тот отказался. А вам предлагали какую или должность министра?**

– Я сразу сказал, что пойду только премьер-министром. Чтобы по мелочам не беспокоили. Это было в те времена, когда еще премьер-министром был Сергей Линг, а я – членом экспертного совета при Совмине.

**– Ну, иной раз и правда легче сделать самому, чем объяснять, как должно быть. Например, взять то же Министерство экономики…**

– Да его вообще закрыть надо! Я туда могу пойти работать только для того, чтобы его ликвидировать. Совершенно бесполезная институция.

Я создал бы национальное бюро экономической политики.

**– Вывеска сменится – и что?**

– Я оставил бы там работать всего 15 человек: пять – хитрые чиновники, пять – ушлые бизнесмены и еще пять – грамотные ученые. Платил бы им по 5 тысяч долларов, чтобы у них соблазна брать взятки не было. И люди принимали бы грамотные решения. Я об этом и Николаю Снопкову говорил, который до недавнего времени министром был. А сейчас Министерство экономики пытается дублировать рынок, который в этом совершенно не нуждается.

А что касается других предложений о работе – что мне предлагали быть директором института при Администрации президента, – это была очень видная должность – еще в те времена, когда Лукашенко пришел к власти.

Предлагали возглавить Институт экономики Академии наук. Были и какие-то полевые должности…

**– Если не ошибаюсь, вас еще в вице-премьеры вали…**

– Это слухи. Мне через кого-то говорили об этом, но напрямую разговора не было. Но зачем мелочиться? Как говорила одна моя знакомая, зачем выходить замуж за инженера и потом всю жизнь мучиться, что у него зарплата маленькая, лучше я сама заработаю! Другой вопрос, если у этого инженера хорошее чувство юмора и с ним будет весело. Я, кстати, сам не люблю чересчур серьезных людей – ни в правительстве, ни в жизни…

**– Но вы серьезно говорите, что согласились бы сесть в премьерское кресло? И как, кстати, оцениваете работу премьер-министра Сергея Румаса?**

– Да, я не шучу. И идти мне до Дома правительства недалеко – мой дом находится рядом, поэтому служебной машиной пользоваться не придется.

Премьер-министр не должен быть слишком решительным. Он должен быть рассудительным. Румасу не нужно слишком суетиться – он должен кадры грамотно подбирать. Не лесников на ключевые должности назначать, а профессионалов.

У нас правительство сложилось по принципам структурирования страны в XIX веке. Вот зачем сегодня Министерство транспорта или Министерство связи?

Кстати, знаете, какая должна быть зарплата у премьер-министра? Она не должна быть высосана из пальца. Она должна рассчитываться очень просто: валовой внутренний продукт на душу населения. Хреново пошли в экономике дела, упал ВВП – снизилась зарплата премьер-министра. И везде так должно быть! И самое главное – никто не придерется к этой системе, потому что она справедлива!

**Марина КОКТЫШ.**

НЕСТАНДАРТ

## Запрасі пасла і падзяліся досведам

*Напярэдадні Міжнароднага дня салідарнасці жанчын паслы, кіраўнікі прадстаўніцтваў міжнародных арганізацый у Беларусі і бізнес-лідары запрашаюць усіх зацікаўленых жанчын Беларусі далучыцца да ініцыятывы "Цень на дзень".*

Стажыроўкі "Цень на дзень" упершыню адбыліся ў 2019 годзе, тады больш за 20 маладых беларусак з усёй краіны правялі адзін дзень з кіраўнікамі замежных прадстаўніцтваў і бізнес-кампаній. Сёлета арганізатары вырашылі памяняць фармат бліц-стажыровак і прапанаваць жанчынам па ўсёй краіне запрасіць пасла стаць сваім "ценем". Што гэта значыць? Любая жанчына, старэйшая за 18 год, можа на адзін дзень стаць настаўніцай для кіраўнікоў міжнародных арганізацый, раскрыць розныя аспекты сваёй справы, распавесці пра выклікі і падзяліцца досведам.

*"Для таго каб падаць заяўку, падыходзіць любы занятак, у якім вы дасягнулі поспехаў і можаце выступаць у якасці настаўніцы*, – кажуць у амбасадзе Вялікабрытаніі. – *Вы можаце быць менеджарам па продажах у кампаніі, кіраўніком вышэйшага звяна, працаваць у школе, на заводзе альбо ферме. Вы можаце займацца спортам ці рамяством, захапляцца навукай ці пісаць кнігі, збіраць ягады або маляваць карціны. Удзел у ініцыятыве – выдатная магчымасць пагутарыць з прафесіяналамі ў галіне кіравання і захопленымі сваёй справай людзьмі, прыцягнуць увагу да сваёй дзейнасці, даведацца пра міжнародны досвед, падзяліцца выклікамі і рашэннямі, якія могуць стаць асновай для далейшых сур'ёзных праектаў".*

Стажыроўкі пройдуць у сакавіку і красавіку.

**Вера ВІР.**

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО...

## Срочная служба в армии теперь включается в страховой стаж

До этого службу в армии засчитывали только в общий стаж работы. Но вот появился президентский указ №48, которым внесены соответствующие изменения.

В документе прописано, что те, кто проходит срочную военную службу, подпадают под обязательное государственное соцстрахование на случай достижения пенсионного возраста, инвалидности и потери кормильца. Страховые взносы в бюджет ФСЗН за них будут составлять 29 процентов их денежного довольствия.

За военнослужащих деньги будут перечисляться из республиканского бюджета.

Периоды срочной военной службы, протекавшей до 1 января 2020 года и не сопровождавшиеся уплатой взносов, будут по-прежнему включаться только в общий стаж работы для назначения пенсии и исчисления ее размера.



Народная Воля http://www.nv-online.info
14 ЛЮТАГА 2020 г.

ГРОМКАЯ ТЕМА

# Олег ВОЛЧЕК: «Мне сказали, что, если не открою дверь, ее просто-напросто взломают…»

*На днях правозащитник и бывший следователь Олег Волчек получил из Генеральной прокуратуры ответ на свою жалобу по поводу ночного обыска в его квартире.*
*В прокуратуре утверждают, что это был не обыск, а всего лишь осмотр.*
*Кстати, топорик для рубки мяса, изъятый во время визита следователей, Олегу до сих пор не вернули.*
*Хотя прошло уже почти полтора месяца!*



Напомним, что к Олегу Волчеку следователи пришли среди ночи 3 января. Искали следы пропавших женщин – останки одной нашли в Свислочи недалеко от дома, где находится квартира Волчека. А вторая женщина, которую искали следователи, была знакома с его братом (к счастью, с ней ничего не случилось, она нашлась). К Олегу пришли потому, что он владеет квартирой вместе с братом.

*«Квартира осталась нам с братом по наследству от мамы, я там не живу постоянно, и следователи ночью искали мой телефон по соседям. Если бы я не приехал, они просто-напросто выломали бы дверь»*, – говорит Олег.

*«Ваши доводы о проведении в Вашей квартире обысков, а не осмотров, противоречат материалам уголовного дела,* – пишет начальник управления по надзору за исполнением законодательства Следственного комитета К.Беспаленков. – *Установлено, что в рамках расследования уголовного дела, возбужденного 02.01.2020 по факту убийства неизвестной женщины, при наличии оснований, предусмотренных ст.203 УПК, с Вашего согласия следователем Центрального (г.Минска) РОСК 03.01.2020 в период времени с 3.42 до 5.56 проведен осмотр квартиры по пр-ту Победителей в г.Минске. Кроме того, следователем СУ УСК Республики Беларусь по г.Минску 03.01.2020 с 17.05 до 19.25 проведен дополнительный осмотр указанной квартиры, производство которого санкционировано заместителем прокурора города Минска.*

*Данные следственные действия были проведены в соответствии со стст. 192, 203, 204 УПК, о чем следователями с соблюдением норм стст. 193, 194 УПК составлены соответствующие протоколы. Вы и иные участники следственных действий были ознакомлены с их содержанием в полном объеме, заявлений и замечаний не заявили, что удостоверили своей подписью.*

*Необходимости в прекращении в отношении Вас и Ваших близких родственников уголовного преследования не имеется, так как ни в отношении Вас, ни в отношении указанных Вами лиц оно не осуществлялось.*

*Оснований для инициирования служебной проверки в отношении сотрудников органов прокуратуры г.Минска и принятия к ним мер реагирования не имеется».*

Олег Волчек намерен обжаловать этот ответ.

– Я считаю, что мою жалобу рассмотрели очень поверхностно, – *говорит правозащитник.* – Чиновник Генпрокуратуры пишет, что были изучены материалы уголовного дела, но при этом не сообщает, какого именно. То ли по делу о расчленении трупа, то ли по факту пропажи человека. Должен быть указан конкретный номер уголовного дела.

Он пишет, что осмотр квартиры был проведен с моего согласия. Но ведь у меня не было выбора! Мне сказали, что если я не открою дверь, ее просто-напросто взломают. Конечно, я дал согласие. Разве кто-то на моем месте поступил бы иначе?

**– В ответе из Генеральной прокуратуры утверждается, что обыска в вашей квартире не было – только осмотр. Во время осмотра могут изымать какие-то вещи?**

– Основания для проведения осмотра и для проведения обыска фактически одинаковые. Изымаются любые вещи, которые могут являться орудием преступления и могут иметь значение для уголовного дела.

У следователей не было достоверных данных, что в моей квартире что-то произошло. Поэтому, на мой взгляд, не было необходимости являться ко мне среди ночи. Я считаю, что сегодня вообще нужно серьезно пересмотреть практику проведения ночных вторжений. Кто-то должен нести за это ответственность.

**– Правильно ли я понимаю, что осмотр – это когда просто смотрят, что и как в квартире, а при обыске могут и плинтусы оторвать – чтобы проверить, не спрятаны ли там, например, наркотики или что-то еще?**

– Тут очень тонкая грань… Первое, что должны сказать следователи, когда пришли в квартиру, – предложить добровольно выдать все, что может иметь отношение к уголовному делу. Если осмотрели квартиру и не нашли, скажем, труп или оружие, осмотр должны прекратить.

Отдельный вопрос – про порядок в квартире после обысков. Я два дня после этих событий не мог собраться с силами и все убрать в квартире после следователей! Кто компенсирует мне моральный ущерб?

И еще один момент. Я точно помню, что мне следователь заявил: дана санкция прокурора. А в Генпрокуратуре сейчас говорят, что санкцию на осмотр давал заместитель прокурора города. Мне показывали постановление, но, сами понимаете, любой человек, к которому среди ночи является милиция, находится в состоянии легкого шока и не всегда может сразу правильно среагировать на какие-то действия правоохранителей. Я просил оставить мне копию постановления. Но мне отказали. Сказали, это не прописано в УПК. Сфотографировать бумагу тоже не позволили.

Я уже говорил: получается, что в такой ситуации те, к кому явились с обыском или осмотром, никак не защищены. Завтра отменяют основание обыска, и как ты что докажешь?

Постановление об обыске или осмотре, санкционированное прокурором, – это не секретный документ, и его копия должна быть у каждого, к кому приходят с обыском.

Мне же не оставили вообще никаких бумаг. Ни о том, что осмотр проводился, ни о том, что было изъято. Поэтому я и в жалобе писал: где копии документов?

Считаю, действия следователей в отношении меня незаконны. Но, получается, прокуроры просто все узаконили, прикрыли их.

Есть еще очень интересный момент: я ведь съездил к женщине, написавшей заявление о пропаже девушки, которая когда-то приходила к моему брату. И вот что получается: 3 января ко мне ночью являются следователи – якобы в связи с пропажей этой девушки, а оказалось, что ее мама написала заявление об исчезновении только 4 января! Так а что тогда следователи у меня делали до того, как было написано заявление о пропаже?

**– И как вы это объясняете?**

– Откровенно говоря, я не вижу случайности в том, что пришли именно ко мне. Мне кажется, это все сделано специально – чтобы дискредитировать мое имя, очернить. Я расцениваю это как ответ на мою принципиальную позицию по делам о громких исчезновениях.

В Генеральной прокуратуре на все те вопросы, которые я сформулировал в своей жалобе, мне не ответили.

Например, я требовал удалить мои личные данные из уголовного дела о расчленении трупа. С ним будет знакомиться много людей, и я не хочу, чтобы там фигурировала моя фамилия. Это вполне законное требование. Но мне пишут, что действующим уголовно-процессуальным законодательством это не предусмотрено. Парадокс! Если я вообще не имею никакого отношения к данной истории, почему там должна фигурировать моя фамилия?!

**– В Генпрокуратуре утверждают, что уголовное дело в отношении вас не возбуждалось. Но во время одного из осмотров в квартире изъяли топорик для рубки мяса. Вернули?**

– Не вернули. Если его отдали на экспертизу, то мне должны были об этом сообщить, уточнить, согласен ли я на экспертизу или нет. Но меня ни о чем не спрашивали. И о судьбе топорика мне на сегодняшний день ничего не известно. Боюсь, как бы он не всплыл в каком-то другом уголовном деле…

**Марина КОКТЫШ.**

ЧУЛІ?

## «БНР-102» – у Гродне ўжо рыхтуюцца

Арганізацыйны камітэт па святкаванні 102-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі ў Гродне прыняў рашэнне правесці ўрачыстыя мерапрыемствы ў горадзе над Нёманам 21 сакавіка, у суботу.

Прадстаўнік арганізацыйнага камітэта Вадзім Саранчукоў паведаміў “Народнай Волі”, што заяўка ў гарвыканкам на правядзенне мерапрыемства ўжо складзена. Адзначаць угодкі БНР, як і летась, плануецца ў Каложскім парку, у месцы, вызначаным уладамі для правядзення масавых мерапрыемстваў. Зараз вядуцца перамовы з музыкантамі, абмяркоўваецца праграма і вядзецца збор сродкаў на яго правядзенне.

Сёлета, паводле слоў Саранчукова, плануецца зрабіць свята больш маштабным, чым летась.

– Хочам, каб падчас правядзення фэсту гучаў не толькі канцэрт, але каб людзі, якія прыходзяць на свята з дзецьмі, маглі ўдзельнічаць у гульнях, паглядзець прадстаўленні, – кажа Саранчукоў. – Якраз над гэтым мы зараз і працуем.

У аргкамітэт правядзення свята ўваходзяць прадстаўнікі ўсіх дэмакратычных партый, грамадскіх арганізацый, і кожны жадаючы можа прыходзіць на пасяджэнні аргкамітэта з прапановамі.

Летась у святкаванні ўгодкаў БНР у Гродне бралі ўдзел некалькі тысяч чалавек.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ПОЛИТКУХНЯ

## На какой матрице остановятся?

Поворот событий в России показывает, что действующий президент Беларуси **Александр Лукашенко**, вероятно, сможет провести свои перевыборы на новый срок в ситуации меньшего давления Кремля, чем это казалось еще в декабре 2019 года. Как следствие, снижаются риски того, что ситуация в ходе президентской кампании выйдет из-под контроля.

Это значит, что для белорусского правящего режима расширяется коридор возможностей. В тревожный период декабря наиболее реальным виделся сценарий выборов, как в 2015 году: три спарринг-партнера, не претендующих на победу и практически не критикующих персонально Лукашенко.

Теперь можно допустить повтор сценариев 2001 и 2006 годов, когда на сцену выходит единый кандидат от демократических сил и его брат-близнец (или сестра), которые растянут голоса оппозиционных избирателей. Тогда еще нужен лояльный спарринг-партнер президента, чтобы действующий глава государства не остался в избирательных бюллетенях в гордом одиночестве в случае самоснятия кандидатов-оппозиционеров (иначе запрос на сменяемость власти может проявить себя массовым голосованием против единственного кандидата).

Менее вероятно повторение сценария 2010 года, когда Центризбирком зарегистрировал кандидатами в президенты практически всех, кто подал заявки.

С одной стороны, когда много слабых кандидатов, они не поют хором, а создают из своих одновременных сольных выступлений информационный шум. Подобный сценарий выгоден властям тем, что дает возможность выпустить пар и одновременно маркирует всех участников кампании, кроме главного, как политических пигмеев, с которыми действующему президенту нет нужды даже участвовать в дебатах.

С другой стороны, сценарий в духе 2010 года чреват рисками выхода ситуации из-под контроля. При отсутствии независимой социологии сложно судить, меняется ли интенсивность недовольства в белорусских регионах, не сгущается ли оно. В ходе избирательной кампании Лукашенко становится уязвимым для негативного общественного мнения, а недовольные получают каналы выхода на массовую аудиторию. Обыватели задают вопросы, на которые могут отвечать политики, в случае удачи приобретая широкую известность и статус персональной альтернативы официальному лидеру.

С учетом всего этого технологам правящего режима трудно брать на себя ответственность за сценарий с множеством кандидатов и проще держать под контролем двух-трех удобных спарринг-партнеров.

В целом же оппозицию и ее потенциальных сторонников властям выгодно загонять в замкнутый круг выученной беспомощности.

**Павлюк БЫКОВСКИЙ.**
*(«Белорусские новости».)*




ТЭНДАР

## Новы комплекс «Гродна Азот» будзе будаваць італьянская фірма

Конкурсная камісія ААТ «Гродна Азот» прызнала пераможцам тэндара на будаўніцтва новага азотнага комплексу італьянскую кампанію Tecnimont S.p.A. З ёй і працягнуцца перамовы па заключэнні кантракта як з генеральным падрадчыкам праекта.

На працягу мінулага года «Гродна Азот» праводзіў тэндар па выбары генеральнага падрадчыка праекта. У конкурсе бралі ўдзел пяць кампаній: CITIC, CMIC, Complant (усе – Кітай), Tecnimont S.p.A (Італія) і Samsung (Рэспубліка Карэя). Прапановы кітайскіх і карэйскай кампаній былі адхілены, паколькі не адпавядалі патрабаванням дакументацыі аб тэндары.

Дарэчы, італьянская фірма мае вопыт выканання аналагічных работ непасрэдна ў ролі EPC-падрадчыка. Кошт праекта па будаўніцтве новага азотнага комплексу на «Гродна Азот» больш за 1 мільярд долараў. Гадавыя магутнасці па вытворчасці аміяку складуць 875 тысяч тон, карбаміду – 1 мільён 225 тысяч тон, вадароду – 200 мільёнаў кубічных метраў. Увод комплексу ў эксплуатацыю запланаваны на канец 2024 года.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ЭКСПАРТ

## Холдынг «Гроднамясамалпрам» павялічвае пастаўкі ў Кітай

Дазвол на экспарт сваёй прадукцыі згодна з атрыманай акрэдытацыяй атрымалі Гродзенскі, Слонімскі і Ваўкавыскі мясакамбінаты. Летась экспарт прадукцыі прадпрыемстваў “Гроднамясамалпрама” ў Кітай дасягнуў 8 мільёнаў долараў. Паводле слоў спецыялістаў “Гроднамясамалпрама”, дастаўка прадукцыі да Паднябеснай займае каля двух месяцаў. Напачатку яе дастаўляюць па чыгунцы ў літоўскі порт Клайпеда, а адтуль па моры яна накіроўваецца ў Кітай. На якасць прадукцыі, паводле сцвярджэнняў спецыялістаў холдынга, гэта не ўплывае, паколькі тэрмін захоўвання сухіх прадуктаў складае год.

Пастаўкі ў Кітай наладзіла і ААТ “Гродзенскі кансервавы завод”. За мінулы год на рынак Паднябеснай прадпрыемства паставіла 16,8 тоны бярозавага соку.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Мікалай КАЗЛОЎ: «Дзеці ў пошуках лепшага жыцця вымушаны з’язджаць за мяжу, бо іх бацькі ідуць на падман»

*Выконваючы абавязкі старшыні Аб’яднанай грамадзянскай партыі распавёў «Народнай Волі» пра тое, чаму ён вырашыў вылучыць сваю кандыдатуру на ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах.*

Мікалай Казлоў таксама падаў заяўку на ўдзел у праймерыз, каб стаць адзіным кандыдатам ад часткі апазіцыі.

Прыём заявак заканчваецца 16 лютага.

– Натуральна, гэта найперш было партыйнае рашэнне, – кажа **Мікалай Казлоў**. – Таму я іду на праймерыз з партыйнай праграмай і прафесійнай камандай АГП.

**– Якую мэту перад сабой ставіце? Галоўнае – не перамога, а ўдзел?**

– Галоўнае якраз-такі – перамога, гэта такая стратэгічная мэта. А тактычная задача – абудзіць людзей, каб яны пачалі разумець сувязь паміж уласным дабрабытам і свабоднымі выбарамі. Народ павінен вызначаць свой лёс, але ўладам выгадна, каб людзі не цікавіліся палітыкай.

Трэба напомніць, што людзі заслугоўваюць свабоды выбару, а тое, што стварыла ўлада, гэта далёкі прататып празрыстага выбарчага працэсу.

Нам важна выбраць адзінага кандыдата ад апазіцыі і важна сабраць 100 тысяч подпісаў, каб зарэгістравацца падчас выбараў.

**– Вы лічыце, што ёсць інструменты, каб змагацца з фальсіфікацыямі?**

– Трэба зразумець, што змагацца з фальсіфікацыямі павінна не толькі апазіцыя, але і самі выбаршчыкі. Людзям неабходна знайсці



сувязь паміж свабоднымі выбарамі і ўласным дабрабытам, а ў барацьбу павінны ўключыцца ўсе – і палітычныя структуры, і грамадства. Калі б так насамрэч было, то фальсіфікацыі ў прынцыпе былі б немагчымыя.

Самае цікавае, што нярэдка людзі, якія маюць дачыненне да фальсіфікацый, затым самі сутыкаюцца з той рэальнасцю, якая і стала вынікам іх дзейнасці. З адсутнасцю працоўных месцаў, нізкімі заробкамі, павышэннем цэн. Умоўна кажучы, дзеці ў пошуках лепшага жыцця вымушаны з’язджаць за мяжу, бо іх бацькі ідуць на падман.

**– Як вы ставіцеся да тых, хто крытыкуе працэдуру абрання адзінага і ўвогуле удзел у выбарах, якіх, па вашых жа словах, няма?**

– На мой погляд, самае горшае, што мы можам зрабіць у гэтай сітуацыі, – гэта нічога не рабіць. Калі пад выглядам байкоту, які, уласна кажучы, ніяк не перашкодзіць уладам правесці выбары па сваім сцэнарыі, мы не будзем нічога не рабіць, то толку з гэтага не будзе.

Што, апазіцыя павінна падчас прэзідэнцкіх выбараў сядзець на канапе і іранізаваць у сацыяльных сетках? Павучаць іншых, як трэба рабіць?

Мне падаецца, што зараз якраз той час, калі за свой дабрабыт і лепшую будучыню краіны трэба актыўна змагацца. Распавядаць людзям пра палітыку, эканоміку, пра небяспеку страты незалежнасці, бо гэтае пытанне ў Расіі не знята з парадку дня.

Таму скласці рукі і сядзець – не самы лепшы варыянт.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

Фота nn.by.

ДИАЛОГ



# Свое слово скажут эксперты

*В Бресте пройдет серия встреч с жителями города и экспертами по обсуждению вопросов о планируемой деятельности аккумуляторного завода ООО «АйПауэр». Инициатором встреч выступило общественное объединение «Экодом».*

Представители ОО «Экодом» направили письма в адрес Брестского городского исполнительного комитета и ООО «АйПауэр» с рекомендациями по повышению эффективности взаимодействия с жителями Бреста. В числе мер по налаживанию диалога было предложено также организовать сбор вопросов и мнений, имеющих отношение к планируемой деятельности ООО "АйПауэр", и провести комплексные консультации с представителями гражданского общества.

7 февраля на базе администрации СЭЗ «Брест» состоялся координационный «круглый стол» по налаживанию дальнейшего диалога. В организационном собрании приняли участие представители государственно-общественной группы экологического контроля, администрации СЭЗ «Брест», Брестского городского, районного и областного исполнительных комитетов, ООО "АйПауэр", а также ОО «Экодом».

Участниками встречи был определен механизм сбора вопросов от брестчан о планируемой хозяйственной деятельности ООО «АйПауэр», обсуждена тематика «круглых столов» и в соответствии с ней – профиль экспертов, а также способы вовлечения широкой общественности в дискуссию и информирование о результатах обсуждения.

Основываясь на предложениях ОО «Экодом», а также действуя на принципах открытости, ООО «АйПауэр» разместило информацию о сборе вопросов от жителей Бреста.

В ближайшее время будут организованы две встречи:

**Тема 1: «Формы и способы участия общественности в принятии экологически значимых решений».** На «круглый стол» приглашены представители Орхусского центра Республики Беларусь. Вопросы для проведения «круглого стола» сформированы на основании предыдущих обращений и комментариев в интернете.

**Тема 2: «Анализ воздействия аккумуляторного производства на окружающую среду и человека».** На «круглый стол» приглашены профильные эксперты из Российской Федерации. Сбор вопросов осуществляется до 16 февраля 2020 года.

Для того чтобы вопросы были заданы экспертам, их можно отправить:

– на «Открытую линию» Группы компаний 1AK-GROUP, которая функционирует в форме чата на сайте ***1ak-group.com,*** e-mail – ***info@1ak-group.com***, а также на почтовый адрес предприятия ООО «АйПауэр»: ***224020 Брестская область, г.Брест, ул.Пионерская д.52, оф. 608;***

– на e-mail ОО «Экодом» – ***brestzavod@gmail.com.***

Для освещения результатов работы «круглых столов» будут приглашены средства массовой информации, а также информация будет опубликована на сайте ***1ak-group.com.***

ЭКСПЕРЫМЕНТ

## Курыльшчыкаў праверацъ на камп'ютарным тамографе

У межах пілотнага праекта па скрынінгу раку лёгкіх гродзенскія медыкі плануюць абследаваць на камп'ютарным тамографе прыкладна тысячу мужчын ва ўзросце ад 50 да 70 гадоў, якія курацъ на працягу 20 гадоў і ў дзень выкурваюць больш за пачак цыгарэт. Нагадай для такой акцыі стала павелічэнне ў рэгіёне колькасці анкахворых.

У кожнай паліклініцы складаюцца спісы патэнцыяльных удзельнікаў эксперыменту, якіх запросяць прайсці праверку на камп'ютарным тамографе. Аб гэтым "Народнай Волі" распавёў намеснік галоўнага ўрача Гродзенскай універсітэцкай клінікі **Уладзімір Кеда.**

Вядома, што зараз на ўліку ў вобласці знаходзіцца 34,5 тысячы хворых на анкалогію, а яшчэ ў 1967 годзе гэта лічба складала 2,5 тысячы пацыентаў.

Гродна, дарэчы, адзіны абласны горад, у якім пакуль няма спецыялізаванай анкалагічнай установы. Толькі летась распачата будаўніцтва сучаснага анкадыспансера.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ЖИТЕЙСКАЯ ТЕМА

# Не сокращайте жизнь пенсионерам!

Прочитав в «Народной Воле» статью Татьяны Мушинской «Как остаться в живых?», не могу промолчать. Автор пишет, с какими трудностями ей пришлось столкнуться, чтобы оказать помощь своей маме, которой было уже 85 лет.

Об этом же могут сказать и все мои родственники и знакомые, им также довелось встретиться с подобными проблемами. Но я добавила бы: у нас, в родной синеокой Беларуси, оказывая медпомощь, люди в белых халатах часто смотрят еще и на возраст пациента. Особенно если ему семьдесят и более. Выслушав жалобы больного, следует: «Вы же знаете, сколько вам лет!» или «А что же вы хотите? Загляните в свой паспорт!». Это звучит как приговор!

Я не буду голословной, примеров много, вот один из них. У моей приятельницы стоит кардиостимулятор да и с ногами очень плохо, ходит только по квартире. Нет-нет да и приходится «скорую» вызывать. Говорит о недомогании, а ей в ответ: «Что вы хотите? Загляните в свой паспорт!» На что она однажды ответила: «Что написано в моем паспорте, я знаю. Но я вас вызвала не в паспорт посмотреть, а оказать мне помощь!» Вот такой диалог. Скажите, это нормальное отношение к пожилому человеку?

А вот другой пример. Моей соседке под восемьдесят, в квартире была в тот день одна. Ночью поднялось давление, самостоятельно сбить не смогла, вызвала «скорую», врачи которой решили доставить ее в 10-ю городскую больницу. На тот момент она была во всем домашнем – халатик и тапочки. В прихожей набросила курточку и пошла в «скорую». В приемном покое больницы артериальное давление очень быстро привели в норму и сказали: «Все, вы свободны. Можете идти!» Короче, должна освободить помещение. А куда и как идти? Глубокая осень, очень холодно, а одета она легко. Да и время неподходящее, всего-то около пяти утра, транспорт еще не ходит. Дали бы хотя возможность переждать на кушетке, пока пойдет транспорт. Но… И пошла Ирина Александровна восвояси. Если ехать автобусом, то до остановки «Зоопарк» это четыре остановки.

Автор статьи упоминает 6-ю городскую больницу. В этой больнице лежала моя родственница восьмидесяти лет с пневмонией. Назначенные антибиотики вызвали расстройство кишечника, которое не прекращалось. Она обратилась к лечащему врачу: «Доктор, дайте мне что-нибудь от поноса». На что доктор ответила: «Мы понос не лечим, а лечим пневмонию». А моя родственница спросила: «Так что же мне делать, вообще не есть, что ли?» А в ответ: «Ну и не ешьте». На водяной «диете» до выписки пролежала более десяти дней. Лекарств не подобрали, тем самым вызвав диарею, а помочь отказались. Я не скрываю, по этому поводу была написана жалоба в Минздрав!

Мне также пришлось вызывать «скорую». Причиной явилась непрекращающаяся в течение двух недель аритмия. Этот диагноз мне был поставлен в стационаре 10-й городской больницы. "Скорую" вызывала внучка, потому что у меня пропал слух, я оглохла на оба уха. Приехали, измерили давление и сняли кардиограмму. Подкорректировали состояние, сказали, что все в норме, и уехали, прихватив с собой и кардиограмму. Утром я решила сама сходить в районную поликлинику №22. Но как попасть к врачу? За талонами надо идти в шесть утра. Пошла позже. Но какой врач меня может принять? Это вопрос! Решила подойти в отделение дневного стационара: а вдруг дежурит тот самый доктор, под присмотром которого мне делали капельницы. Повезло – врач Т.В.Короленок работала. Она меня и приняла. Я рассказала, что со мной произошло накануне, попросила оказать мне помощь. Поскольку «скорая» не оставила кардиограмму, врач лично отвела меня в кабинет, где мне немедленно сделали новое исследование. Была подтверждена аритмия. Доктор назначила мне курс лечения, выписала необходимые медпрепараты. После лечения восстановился слух, на потерю которого я жаловалась врачам «скорой».

Я была благодарна врачу, которая отнеслась ко мне с большой теплотой и сердечностью. А ведь она имела полное право отказать мне в приеме, поскольку я в данный момент не ее пациентка и должна была идти на прием к своему участковому терапевту. Но доктор Короленок пошла мне навстречу, уделила внимание и оказала помощь. И я написала ей благодарность. Поблагодарила также главврача поликлиники за таких замечательных ее подчиненных. А второй экземпляр (копию) этой же благодарности отослала в Минздрав. Через месяц «скорая» привезла мне домой кардиограмму, которую «забыли» оставить ранее, во время вызова.

А вот еще один эпизод, с которым сталкиваются многие пожилые люди, имеющие далеко не идеальное артериальное давление, поэтому оно должно быть под контролем. Дома это сделать можно – тонометр всегда рядом. А если ты оказываешься в другом месте? Утром отводила свою правнучку в детсад. Поднялись на второй этаж. Открыла дверь в помещение, где находятся детские шкафчики для переодевания. Неловко переступила порог помещения и упала сразу же лицом вниз. Ко мне тут же подбежали воспитатели садика. Подняли, усадили на табурет. На виске и в районе глаза был страшный отек. Принесли из холодильника замороженную пачку сливочного масла и приложили к месту отека. Предложили вызвать «скорую», но я не хотела создавать детскому саду лишние проблемы и пожелала идти домой. Воспитатель позвонила моей внучке, помогли мне дойти до подъезда дома. Соседка вызвала «скорую». Срочно приехал внук, ему позвонила сестричка, он ехал сзади за «скорой» до 10-й больницы, присутствовал при моей госпитализации. Определили в хирургическое отделение.

На следующее утро был врачебный обход поступивших пациентов. Глядя на заплывший глаз и гематому на виске, хирург задал вопрос: «Вы сами или вам помогли?» Я была в шоке от такого вопроса. «Сама» – это понятно: зацепилась, упала... Но как понять «или вам помогли»? Можно и так понимать: с кем-то пила вместе, что-то не поделила, участвовала в драке и т.д. Да мало ли чего могло быть, мол, и «помогли» бабушке... Осмотрев мои гематомы, врач сказал: «Строгий постельный режим!» Поскольку из-за стрессового состояния поздно вечером у меня поднялось давление и дежурная медсестра давала мне препарат для его снятия, я попросила доктора проверить, нормализовалось ли оно. Он сухо ответил: «Вот кончится обход, идите в сестринскую и измерьте». И это несмотря на то, что ровно пять минут назад он сказал: «Строгий постельный режим». Позвонила внучке. Она мне принесла мой тонометр и препараты, снижающие артериальное давление.

Позже я узнала, что доктора при обходах носят с собой тонометры только в отделениях кардиологии. И это подтверждают многие, кто попадал в разные отделения, в том числе и хирургию. Надо полагать, что это указание Минздрава. Отказываясь в стационаре больницы измерить давление пожилому человеку, мне кажется, этим самым лишний раз напоминают о его возрасте. Само государство не заинтересовано в долгожителях – пенсии надо выплачивать, да и льготы им какие-то предоставлять.

Но свое письмо в «Народную Волю» я хочу закончить все же на другой ноте. В сфере здравоохранения работает очень много замечательных врачей и медсестер, которые выходят за рамки негласных распоряжений свыше и оказывают всевозможную помощь пенсионерам. И они никогда не скажут: «Что же вы хотите – загляните в свой паспорт!») Потому что знают: для любого пожилого человека каждый прожитый день – это счастье.

**Тамара Станиславовна МИЛЛЕР.**

*Минск.*

КРИМИНАЛ

## Сбывали психотропы через интернет…

По данным УВД Могилевского облисполкома, еще в январе в поле зрения сотрудников управления по наркоконтролю и противодействию торговле людьми попались два жителя Бобруйска 28 и 23 лет. Они продавали через интернет приобретенные в России психотропные вещества.

При досмотре сотрудники милиции обнаружили у них 136 граммов белого порошка, содержащего мефедрон – особо опасное вещество, не используемое в медицинских целях. Подозреваемые задержаны.

По информации УНиПТЛ Могилевского УВД, в прошлом году удалось пресечь два канала поставки наркотиков и психотропных веществ на территорию нашей страны из России. Было изъято около 1 килограмма психотропов, которые наркоторговцы собирались реализовать в Могилевской области. В этом году это первый ликвидированный канал.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

## Стральцоўскі фестываль на «Сёмым небе»

14–16 лютага ў Мінску пройдзе IX Міжнародны паэтычны фестываль імя Міхася Стральцова "Вершы на асфальце". Мерапрыемствы будуць праходзіць на трох пляцоўках: у канферэнц-зале рэстарана "Сёмае неба" гатэля "Мінск", Літаратурным музеі Максіма Багдановіча і клубе "Грай". У фестывальнай праграме – уручэнне Літаратурнай прэміі Міхася Стральцова і прэміі "Залаты апостраф", прэзентацыі новых кніг і паэтычныя чытанні, у якіх возьмуць удзел беларускія паэты і перакладчыкі Валянціна Аксак, Марыя Мартысевіч, Юля Цімафеева, Алесь Разанаў, Лявон Баршчэўскі, Адам Глобус, Андрэй Хаданович, Віталь Рыжкоў, а таксама Войцех Бановіч (Польшча), Кірылс Эціс (Латвія), Петэр Мілчак (Славакія), Вячаслаў Лявіцкі (Украіна). Агульная колькасць удзельнікаў – больш за 50 чалавек. На ўсіх імпрэзах фестывалю будуць працаваць міні-кнігарні. Уваход на ўсе мерапрыемствы вольны. Адкрыццё фестывалю – 14 лютага, 18.00, канферэнц-зала "Сёмага неба" (пр-т Незалежнасці, 11, корп. 2).

**Антон ЗАГОРСКІ.**

РАКУРС

# Як Алег Калінкоў дапамагае людзям змагацца з махлярамі

*Юрыст Гродзенскага таварыства абароны правоў спажыўцоў стварыў у сацыяльных сетках групу, у якую ўвайшлі 10.200 чалавек. Усе яны пацярпелі ад рознага роду махляроў.*

### На першы погляд усё нібыта законна

Спадар Калінкоў распавядае, што ён спецыялізуецца, так бы мовіць, выключна на сецевых махлярах, мае справу з фірмамі, якія на прэзентацыях прадаюць спажыўцам тавары па цане ў дзесяткі, а то і ў сотні разоў вышэй, чым яны насамрэч каштуюць. Такі спосаб махлярства дасягнуў асаблівага росквіту ў апошнія два гады, і з ім не так і проста змагацца.

*– Асноўная дзейнасць такіх фірм цяпер адбываецца ў раённых гарадах і нават у аграгарадках – да 95 працэнтаў зваротаў да мяне менавіта адтуль,* – зазначае Калінкоў.

Юрыст падкрэслівае, што фірмы законаў нібыта не парушаюць – яны прапаноўваюць тавар, людзі купляюць, і на гэтым разыходзяцца. Але ўжо праз некалькі дзён пакупнікі бягуць у таварыства абароны правоў спажыўцоў.

### Спіш і лечышся!

Гродзенская фірма "Лама голд" выправілася са сваім таварам аж у Магілёў. Жыхарка гэтага горада **Тацяна Лапічкава** расказала "Народнай Волі", як яе па тэлефоне вельмі культурна запрасілі на прэзентацыю пасцельных камплектаў. Пайшла не адна, а з мужам. Ім доўга тлумачылі, якім карысным і патрэбным можа быць зроблены з натуральнай воўны новазеландскіх мерыносаў пасцельны камплект. І хоць фірма і запрасіла за яго нават з улікам скідкі 2760 рублёў – вырашылі набыць.

*– Акцэнт быў зроблены на тое, што, паспаўшы пад ім, мы можам нават папраўіць сваё здароўе,* – распавядае жанчына. *– А дзеля таго каб эфект ад яго быў самым адчувальным, раілі спаць пад ім з мінімумам ніжняга адзення.*

Праўда, на справе новазеландскі мерынос аказаўся вельмі калючым, ляжаць на ім было немагчыма, і ў Тацяны пачалася алергія. Эфекту, які ім абяцалі падчас прэзентацыі, і блізка не адчулі. Выслухаўшы іх скаргі, у фірме прапанавалі "абкатаць" камплект на працягу месяца, і тады, маўляў, усё зменіцца. Хаця, паводле слоў Тацяны, раней абяцанні былі іншыя: пасля першага ж карыстання павінен быць станоўчы эфект.

*– Нас ужо камплект за такія грошы не задавальняў, і я вырашыла яго вярнуць прадаўцу,* – канстатуе жанчына. *– Падчас прэзентацыі нам так і казалі: не спадабаецца – вернеце.*

Але "Лама голд" заўпарцілася і запатрабавала грошы, якія яшчэ цалкам не былі сплачаны. Маўляў, вы ўжо скарысталіся камплектам, то будзьце ласкавы заплаціць. У выніку фірма патрабавала грошы ўжо праз суд.

*– І толькі тады я, не ведаючы, што рабіць, знайшла ў інтэрнэце кантакты Гродзенскага таварыства абароны правоў спажыўцоў і распавяла сваю гісторыю Алегу Калінкову,* – згадвае Тацяна.

Суд ужо першай інстанцыі абавязаў "Лама голд" забраць свой пасцельны камплект назад і выплаціць судовыя выдаткі і маральную кампенсацыю сям'і Лапічкавых. Але адбылося яшчэ некалькі судоў, пакуль "Лама голд" абскарджвала рашэнні.

*– Падставай для рашэння суда сталі вынікі праведзенай экспертызы,* – падсумоўвае Тацяна. *– Выявілася, што камплект не адпавядаў нават памерам, заяўленым у іх сертыфікатах. Да таго ж састаў камплекту з новазеландскага мерыносу аказаўся не 100-працэнтны – воўны ў ім было менш за палову. Урэшце экспертыза ўстанавіла, што вытворца зусім не Новая Зеландыя, а наогул невядома хто.*

Алег Калінкоў змог прадставіць у судзе ўзоры такога ж тавару, які ў звычайных крамах каштуе ўсяго 200 рублёў.

Тацяна Лапічкава сказала, што яны з мужам больш на падобныя прэзентацыі не ходзяць, хаця запрашэнні дагэтуль атрымліваюць.

### Разлік на пенсіянераў

Падобным чынам, кажа Калінкоў, рознага кшталту махляры падманваюць людзей пры продажы бытавой тэхнікі. Ён згадвае, што нядаўна ў судзе адстойваў правы 90-гадовага пенсіянера, якому мыючы пыласос падобная фірма падчас прэзентацыі прадала за 2 тысячы рублёў, хаця яго кошт з дастаўкай да хаты ў краме абыходзіцца прыкладна ў 300 рублёў. Альбо яшчэ: патэльню прадалі за 500 еўра, а яе сапраўдны кошт – 30 рублёў. Падобных прыкладаў процьма.

*– На прэзентацыях сталым людзям распавядаюць, што адмыслова для іх прывезлі пыласосы, якіх няма нідзе ў продажы, і людзі на гэта купляюцца. А ўжо калі справа даходзіць да суда, то высвятляецца, што на прэзентацыі да спажыўцоў была даведзена непраўдзівая інфармацыя аб тавары, што з'яўляецца парушэннем заканадаўства,* – заўважае Калінкоў.

Наш субяседнік вельмі здзіўлены тым, як лёгка спрацоўвае формула махляроў: дастаткова павесіць локшыну на вушы – і людзі вераць. Ён лічыць, што падчас прэзентацый прадстаўнікі фірм выкарыстоўваюць элементы псіхалагічнага ўздзеяння. Як правіла, усе гэтыя махлярствы выплываюць на паверхню, калі да бацькоў прыязджаюць дзеці, бачаць тавар, а потым спраўджваюць у інтэрнэце яго кошт.

За мінулы год, згадвае Калінкоў, ён дапамог вярнуць грошы больш як 250 пацярпелым. Часта ўдаецца вярнуць тавар прадаўцам без суда, а, згодна з заканадаўствам, у 14-дзённы тэрмін з дня яго набыцця.

Юрыст Калінкоў распавядае, што за гады працы на адстойванні правоў спажыўцоў яму давялося сутыкацца з самымі рознымі сітуацыямі. З аднаго боку, ён не можа зразумець, як маладыя здаровыя людзі так проста ідуць на падман сталых людзей, пакідаючы іх падчас без сродкаў для існавання і заробленых на гэтым грошы.

З іншага боку, здзіўляе тое, наколькі людзі згубілі інстынкт самазахавання і не могуць сябе абараніць нават у самых звычайных абставінах.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

